**Генадзь Праневіч**

# Леў Сапега Жыццё дзеля Айчыны

***(Кароткі біяграфічны нарыс)***

**ВІЦЕБСК 2003**

УДК 94 (476) + 82.09 (476)

Навуковы рэдактар
Доктар філалагічных навук І.В. Саверчанка
Рэцэнзенты:
Кандыдат гістарычных навук П.А. Лойка
Кандыдат філалагічных навук У.А.Сенькавец

Праневіч Г.М.

Леў Сапега: Жыццё дзеля Айчыны. [Кароткі біяграфічны нарыс]. 2-е выд. папр. і дап. - Віцебск, ГА "Фонд імя Л.Сапегі", 2003.- 20 с.

У даступнай і сціслай форме раскрываецца палітычная і творчая біяграфія Льва Сапегі - палымяннага патрыёта і гуманіста, канцлера ВКЛ, аднаго з стваральнікаў знакамітага Літоўскага Статута 1588 г.

Адрасавана дэпутатам і дзеячам мясцовага самакіравання, сябрам грамадскіх аб'яднанняў, усім, хто цікавіцца выдатнымі людзьмі сваёй Айчыны.

*... У кожнай дзяржаве годнаму чалавеку нічога не можа быць даражэйшае за свабоду*

Леў Сапега.
З прадмовы да Літоўскага Статута 1588 г.

*На найслаўныя і старавечныя клейноты, альбо гербы, яснавяльможнага пана, пана Льва Сапегі, падканцлера Вялікага Княства Літоўскага, слонімскага, мядзельскага, маркаўскага і іншых старасты, эпікграмма.*



*Усё лёгка можна быстрым вокам змерыць,*
*Уздоўж і ўпоперак шнурам усё абмерыць.*
*Аб чалавеку льга даведацца па твары,*
*Калі ім толькі хітрасць не ўладарыць...*
*Але ў дамах, дзе годнасць свой знайшла прытулак,*
*Ваярскі чын шануюць больш, чым золата шкатулак.*
*І ганарацца ім - і ў тым дастойнасць маюць!*
*І знакі цноты той у гербах выстаўляюць.*
*Такія людзі не пакінуць круг зямны ніколі,*
*Што славу плодзяць з веку ў век па добрай волі!*
*Прыгледзься на той герб Сапегаў вельмі значны,*
*Дазнаешся, што ў доме тым удзячным,*
*Здаўна, ад прадзедаў, была дастойнасць у пашаноце,*
*Лілеі тры нам знаць даюць аб гэтай цноце...*
*Пры іх вершнік з мячом, узброены стаіць,*
*То знак, што кожны з іх заўжды гатоў служыць*
*Сваім гаспадарам ва ўсякай злыбядзе,*
*Ні скарбаў не шкадуючы, ні самаго сябе.*
*Яшчэ пабач! У локці ў воіна прастрэлена рука,*
*Прабіла навылёт яе з тугога лука пушчана страла.*
*Раны такой не напаткаеш дома седзючы,*
*Адно — хто ў бітвах рассякае паганскія палкі.*
*У гербах тых пасяродку ёсць страла з двума крыжамі,*
*А поруч трэці крыж у месяцаў асадзе.*
*То знак такі: іх род за хрысціянства*
*Сваё здароўе клаў, не дбаючы аб панства.*
*Вышэй глядзі! Над шоламам карону там відно...*
*Якая сведчыць, што там Бог злучыў даўно*
*Фартуны кола, годнасць, рыцарскую чэсць,*
*Чаго ў іх ані моль, ні ржаўчына ні з'есць.*
*Сапегі хай жывуць і множаць свае лета!*
*Хай з году ў год бяжыць хвала аб родзе гэтым!*
*Што ўзялі ад продкаў — перадавайце дзеткам,*
*Выдатных вашых спраў увесь свет поўны сведкаў!*

Андрэй Рымша[1]

[1] Пераклад эпіграммы А.Рымшы на гербы Л.Сапегі зроблены аўтарам з старабеларускай мовы паводле наступнага выдання: гл.: Статут Вялікага княства Літоўскага 1588: Тэксты. Давед. Камент. - Мн.:БелСЭ, 1989. С. 46.

заклікаў маладых князёў Радзівілаў, каб яны "не толькі чужаземнымі мовамі захапляліся, але таксама... і сваю, здаўна слаўную мову славянскую мілавалі і іншым ёю карыстацца раілі"[3].

Жыццё ў асяроддзі асвечаных, высокаадукаваных людзей, сама атмасфера гуманістычнага Нясвіжа, яркіх і захапляючых навуковых ідэй спрыялі выхаванню патрыятычных пачуццяў і шпаркаму разумоваму і духоўнаму развіццю надзвычай здольнага і шчодра адоранага ад прыроды падлетка: ужо ў трынаццаць гадоў, акрамя роднай для яго беларускай мовы, ён выдатна валодаў польскай, нямецкай, лацінскай, грэцкай, быў няблага абазнаны ў важнейшых палітычных і гуманістычных праблемах свайго часу.

Некалі малым хлапчуком нават з самых высокіх узгоркаў роднага Астроўна ён мог назіраць толькі вулкі мястэчка ці край далёкага лесу. Цяпер жа з замкавай гары Нясвіжа яму адкрывалася панарама ледзь не ўсёй Еўропы. Вучоба ў знакамітым Ляйпцыгскім універсітэце, знаёмства з палітычным і культурным жыццём Нямеччыны, куды Мікалай Радзівіл Чорны паслаў Л. Сапегу разам з сваім сынамі Юрыем і Станіславам для паглыблення адукацыі, заклалі надзейны і трывалы падмурак ведаў у галіне філасофіі, гісторыі, юрыспрудэнцыі, мастацтва, выявілі у ім бліскучыя літаратурныя здольнасці.

Па вяртанні на радзіму, па-еўрапейску адукаваны малады арыстакрат неўзабаве трапляе ў поле зроку новаабранага манарха Рэчы Паспалітай Сцяпана Батуры і робіць пры яго двары бліскучую службовую кар'еру, асновай якой сталі выдатныя асабістыя якасці і здольнасці юнака - шматгранныя веды, арыгінальны і дасціпны розум, выхаванасць, стараннасць пры выкананні службовых даручэнняў, уменне дабівацца пастаўленых мэтаў.

У дадатак да ўсяго малады Сапега праявіў выключны дзяржаўны патрыятызм і любоў да сваёй Айчыны, калі ў часе ваеннай кампаніі 1579г. сфармаваў на ўласныя сродкі полк конных гусараў і мужна змагаўся з маскоўцамі ў складзе каралеўскіх войскаў пад Вялікімі Лукамі, Псковам і Завалаччу, дзе на палях Лівонскай вайны тады вырашаўся лёс радзімы.

Усё гэта не засталося па-за увагай манарха. 4 лютага 1580 г. кароль Рэчы Паспалітай прызначае Л.Сапегу на вельмі прэстыжную пасаду сакратара Вялікага Княства, а ў 1581г. ён ўжо займае пасаду найвышэйшага пісара дзяржаўнай Канцылярыі ВКЛ, што адкрывае яму доступ да важнейшых палітычных і ўрадавых спраў, робіць мала-

[3] Хрэстаматыя па старажытнай беларускай літаратуры. - Мн.: Дзяржвыд. БССР, 1959. С.191.

дога ўрадоўца надзвычай папулярнай і перспектыўнай палітычнай постаццю.

І. Саверчанка так малюе партрэт Л.Сапегі гэтай пары: “Ён мог падоўгу, без усялякай мітусні і нават з асалодай займацца адной справай. А напрыканцы надаць ёй такую завершанасць і бляск, што ні ў кога не ўзнікала і думкі, каб штосьці выпраўляць ці перарабляць. Прыемная знешнасць маладога Сапегі без пананднасці і крыклівага пазёрства, унутраны спакой ды заўсёдная ўпэўненасць без долі самалюбавання і ганарыстасці разам з карэктным і ўважлівым стаўленнем да суразмоўцы стваралі вакол яго атмасферу душэўнага камфорту, цеплыні і абаяльнасці. Невыпадкова Сцяпан Батура прадбачна заўважыў у гэтым не па гадах дарослым юнаку талент "дзяржаўнага" чалавека. І ён не памыліўся. У асобе Л.Сапегі сапраўды спалучалася ўсё тое, што дазваляла хутка ўзняцца па іерархічнай лесвіцы. Вядома ж, на той час яму яшчэ не ставала жыццёвага вопыту, але, як і багацце ды слава, яны прыйшлі да яго крыху пазней, разам з вялікай уладай і славутымі справамі”[4].

Адзначаныя якасці, памножаныя на палітычны прагматызм, настойлівасць, ўменне дакладна фармуляваць і дабівацца ажыццяўлення пастаўленых мэтаў, спрыялі поспехам Л.Сапегі і на дыпламатычнай ніве. Асабліва ў часе пасольства 1584 г. да Івана IV, якое ён узначаліў па даручэнні Сцяпана Батуры, каб заключыць вечны мір паміж Рэччу Паспалітай і Масковіяй. Тады ў складанай і непрадсказальнай палітычнай абстаноўцы, што склалася пасля смерці Івана Грознага, кіраўніку місіі давялося праявіць і волю, і цвёрдасць, і не абы-якую вынаходлівасць, каб заключыць выгадны мір, ды яшчэ вызваліць з палону без аніякага выкупу 900 палонных жыхароў Вялікага Княства.

Поспех дыпламатычнай місіі азначаў яшчэ адну - чарговую прыступку ў яго палітычнай кар'еры. На гэты раз кароль Рэчы Паспалітай не толькі ўзнагародзіў Л. Сапегу багатым Слонімскім староствам, але і прызначыў яго 2 лютага 1585 г. на адну з ключавых у Вялікім княстве пасад - пасаду падканцлера.

Зрэшты, хроніка паспяховага кар'ернага ўзыходжання Л.Сапегі да вяршынь палітычнай улады ў Рэчы Паспалітай як дзяржаве "абодвух народаў" дае зусім няшмат, каб зразумець ўнутраныя матывы і логіку ягонага духоўнага развіцця і ўзвышэння як ідэолага і стваральніка новай юрыдычна-прававой канцэпцыі дзяржаўна-палітычнай незалежнасці Вялікага княства Літоўскага.

---

[4] Саверчанка І.В. Канцлер Вялікага Княства: Леў Сапега. - Мн.: Навука і тэхніка, 1992. С. 11.

У сувязі з гэтым варта нагадаць, што ягонае фарміраванне і станаўленне як асобы і дзяржаўна-палітычнага дзеяча мелі яскравае нацыянальна-патрыятычнае вымярэнне, змест і характар якога шмат у чым вызначаліся незадаволенасцю палітычных колаў ВКЛ вынікамі несправядлівай Люблінскай уніі 1569 года, якая дыскрымінавала і пацясняла ліцвінскую магнатэрыю і шляхту ў яе палітычных правах і эканамічных мажлівасцях, разбурала самабытныя палітычныя, маральныя і культурныя ўстоі жыцця дзяржавы, на якіх традыцыйна выхоўвалася маладая шляхецкая эліта ВКЛ.

Не дзівіць, што малады дзяржаўца становіцца неўзабаве самым гарачым прыхільнікам і удзячным спадкаемцам незалежніцкіх настрояў сваіх апекуноў Радзівілаў і канцлера ВКЛ Астафея Валовіча, у канцылярыі якога пачынаў сваю палітычную кар'еру.

Як патрыёт дзяржавы, сваю асноўную палітычную мэту на пасадзе падканцлера, а затым і канцлера Вялікага княства Літоўскага (1589-1623 гг.) Леў Сапега звязваў з мэтанакіраванай барацьбой супраць вынікаў гвалтоўна навязанай Княству Люблінскай уніі 1569 года, палажэнні якой (пункты 2, 3, 4, 6, 10, 13, 15, 27)[5] аб забароне мець ўласны сойм, асобна выбіраць сабе гаспадара, праводзіць самастойную міжнародную палітыку, альбо, для прыкладу, тыя, што дазвалялі палякам купляць землі і займаць дзяржаўныя і іншыя пасады ў ВКЛ, — сур'ёзна падрывалі палітычны і эканамічны суверэнітэт дзяржавы, рабілі яе ці не цалкам залежнай ад польскай Кароны і волі манарха.

Барацьба за суверэнітэт і незалежнасць ВКЛ, якую ўзначаліў Л. Сапега, цяпер вялася падканцлерам не збройным чынам, як у ваеннай кампаніі 1579 г., і не ў форме адкрытых соймавых дэбатаў і дыскусій, што было звыклай для Рэчы Паспалітай з'явай, але разгарнулася на палітычным і юрыдычна-праўным, полі, дзе ўсё вырашалі палітычная і дыпламатычная ўмеласць, інтэлект, розум і воля праціўнікаў.

Сваім асноўным саюзнікам у барацьбе Леў Сапега зрабіў магутны род магнатаў Радзівілаў, чые незалежніцкія настроі і няспраўджаныя ў часы Жыгімонта II Аўгуста вялікакняскія амбіцыі, звязаныя з спробамі дабіцца для Княства цалкам самастойнага статуса, былі яму добра вядомыя.

Узначальваючы соймавую камісію па падрыхтоўцы новага Статута, якая павінна была прывесці ўсё заканадаўства ВКЛ ў адпаведнасць з палажэннямі заключанай у Любліне уніі, Л.Сапега фактычна не толькі праігнараваў рашэнні Люблінскага сойма 1569г., але ства-

[5] Уния в документах: Сб./сост. В.А.Теплова, З.И.Зуева. - Мн.: «Лучи Софии», 1997. С. 83-88.

рыў прынцыпова новы юрыдычны Кодэкс, якім не толькі замацоўваўся нацыянальна-дзяржаўны суверэнітэт краіны, але ствараліся юрыдычна-прававыя гарантыі існавання і развіцця Вялікага княства Літоўскага як незалежнай дэмакратычнай прававой дзяржавы.

Абапіраючыся на падтрымку Радзівілаў і ўмела выкарыстоўваючы палітычныя цяжкасці Жыгімонта III Вазы, які змагаўся за трон караля Рэчы Паспалітай, Л.Сапега з сваімі аднадумцамі і прыхільнікамі дабіліся ад новага манарха неверагоднага - падпісання і фактычнага ўвядзення ў дзеянне новага Літоўскага Статута 1588 г., артыкулы якога юрыдычна легімітызавалі і аднаўлялі працу вышэйшага заканадаўчага органа краіны — Вальнага Сойму, зноў забаранялі іншаземцам валодаць землямі і атрымоўваць дзяржаўныя, духоўныя і свецкія пасады ў ВКЛ, пацвярджалі дзяржаўны статус беларускай мовы і, між іншым, істотна абмяжоўвалі правы самога манарха: "Таксама мы, гаспадар, абяцаем і клянёмся... — гаварылася ў артыкуле 12 (раздзел 3) Статута, — што ў тым гаспадарстве, Вялікім княстве Літоўскім, і па ўсіх землях, якія яму належаць, не будзем даваць ва ўладанне ніякім чужаземцам і замежнікам, ані суседзям таго гаспадарства духоўных і свецкіх пасадаў, замкаў, маёнткаў, земляў, староstваў, дзяржаваў, урадаў земскіх і прыдворных. Мы і нашчадкі нашы, вялікія князі літоўскія, абавязаны даваць тое толькі Літве, Жамойці і Русі, родзічам старажытным і ўраджэнцам Вялікага Княства Літоўскага і тых земляў, якія да яго належаць..."[6].

Ідэяй абмежавання ўлады манарха рамкамі закона прасякнута і напісаная Л.Сапегам Прадмова да Літоўскага Статута 1588 г., у якой ён з годнасцю зазначае, што "наша вольнасць, якою мы сярод іншых хрысціянскіх народаў ганарымся, найперш на тым палягае, што гаспадара, які б паводле сваёй волі, а не паводле законаў нашых уладарыў, над сабой не маем, а ці то годнасцю сваёй, жыццём альбо маёмасцю вольна распараджаемся" [6, 47].

Падрыхтоўка, публікацыя і ўвядзенне ў дзеянне трэцяй рэдакцыі Літоўскага Статута сталі актам публічнай юрыдычна-прававой абароны патрыятычнымі сіламі ВКЛ незалежнасці краіны. На дасягненне гэтай мэты Л.Сапега паставіў ўсё — свой аўтарытэт, палітычную кар'еру, літаратурны талент, а па-за гэтым, і немалыя грашовыя сродкі, якія выдаткаваў з уласнай кішэні на публікацыю ўсяго тыража новага Статута.

Статут 1588 г. — візітоўная картка Л.Сапегі. Гэты выдатны помнік духоўнай культуры беларускага народа, у якім адлюстраваўся багаты

---

[6] Статут Вялікага княства Літоўскага 1588: Тэксты. Давед. Камент. - Мн.:БелСЭ, 1989. С. 118.

вопыт традыцый грамадска-палітычнага і дзяржаўнага жыцця, вынесены народам з гістарычнага мінулага, стаў унікальнай з'явай еўрапейскага заканадаўства, дзякуючы найперш Л.Сапегу, які аздобіў яго глыбокімі ведамі і найноўшым здабыткам айчыннай і агульнаеўрапейскай юрыдычна-прававой навукі, а ў сваіх прадмовах "выказаў шмат гэткіх высокіх думак, якія адпавядалі толькі XVIII і XIX стагодзьдзям"[7].

Статут 1588 г. ўпершыню заканадаўча замацоўваў класічны прынцып падзелу ўладаў на заканадаўчую (сойм), выканаўча-распарадчую (вялікі князь і паны-рада) і судовую (гаспадарскі суд, Галоўны Трыбунал, мясцовыя суды), а таксама акрэсліваў кампетэнцыю і ўстанаўліваў формы ўзаемадачыненняў цэнтральнай улады з шляхецкім і гарадскім самакіраваннем.

У ім дэклараваўся прынцып усеагульнага прамога выбарчага права для ўсіх саслоўяў, які ўвойдзе ў практыку еўрапейскага заканадаўства толькі ў канцы XVIII стагоддзя.

Складальнікі ўвялі таксама ў Статут 1588 г. беспрэцэдэнтна смелы для таго часу артыкул, які прадугледжваў смяротнае пакаранне шляхціча за наўмыснае забойства простага чалавека. Гэты факт даў падставы гаварыць аб больш гуманістычным характары літоўскага заканадаўства ў адносінах да сялян у параўнанні з Каронай, дзе падобны артыкул быў уведзены толькі ў 1768 г.[8]

Як рэфарматар дзяржаўнага заканадаўства і права, Л.Сапега далёка апярэджваў свой час, тварыў такі высокі ідэал грамадскага і дзяржаўнага жыцця, які па вялікім рахунку і сёння застаецца недасяжным узорам для нас.

Асабліва яскрава глыбіня і гуманістычны пафас сапегаўскай думкі выявіліся ў лістах падканцлера, звернутых да караля, а таксама ў ягоным звароце да ўсіх станаў і саслоўяў Вялікага княства Літоўскага, у якіх важнейшае месца займаюць абгрунтаванне ідэі прававой дзяржавы і вяршэнства закона, а таксама гуманістычнае паводле сваёй сутнасці сцвярджэнне ідэі свабоды як вышэйшай каштоўнасці чалавечага жыцця.

Сапегаў "Зварот да ўсіх саслоўяў" - гэта сапраўдны гімн свабодзе і свабоднаму чалавеку: "... у кожным — калі б яно не ўтварылася — гаспадарстве дастойнаму чалавеку нічога не можа быць даражэй за

---

[7] Шкялёнак М. У трохсотныя ўгодкі сьмерці Вялікага канцлера Льва Сапегі» // Спадчына. - 1991. — № 1. - С. 64.
[8] A. Stroynowski. Pozycja społeczna drobnej szlachty WKL w końcu XYIII w., Zeszyty naukowe uniwersytetu Łódzkiego. Nauki humanistyczno-społeczny. Seria I, zeszyt 4, Łódź, 1976. S. 106.

вольнасць. Затое няволя яму настолькі агіднаю мае быць, што не толькі маёмасцю, але і смерцю яе адганяць ад сябе павінен"[9].

Для Л.Сапегі свабода ёсць абсалютная, універсальная каштоўнасць. Аднак у сістэме ўнутраных грамадскіх дачыненняў асобы з дзяржавай і іншымі людзьмі ён трактаваў прынцып свабоды выключна праз прызму пісанага закона, даводзячы грамадзянству, як некалі Цыцэрон, што "каб маглі мы вольнасцю карыстацца, становімся для таго нявольнікамі закону". На думку гуманіста, ведаць законы і умець імі карыстацца - абавязак кожнага сапраўднага грамадзяніна, а "ўсякі жыхар, што сваёю вольнасцю ганарыцца, але не хоча ні ўведаць, ні зразумець закону, якім абаронена вольнасць яго, заслугоўвае ганьбавання" [9, 4-6].

Разглядаючы закон ў якасці універсальнага рэгулятара сацыяльных, грамадскіх і нацыянальна-рэлігійных адносін у дзяржаве, Л.Сапега вылучаў і падкрэсліваў найперш яго абарончую, ахоўную функцыю, бачыў у ім шчыт ад злачынных пасяганняў на вольнасць, жыццё і маёмасць грамадзян. "Вось жа, — чытаем у "Звароце...", — на ўтаймаванне ўсякага ліхадзея вынайдзены муштук, ці - іначай — цуглі, каб, маючы боязь перад законам, устрымліваўся ад гвалту і ад сваволі і над слабейшым ды бяднейшым не пасвіўся... Закон і ўсталёўваецца на тое, каб дужы-заможны не ўсё, што яму зажадаецца чворыў... Мэта і вынік усіх законаў, што існуюць на свеце, — каб кожны добрую славу сваю, здароўе і скарб-нажытак меў непашкоджанымі і страты ў гэтым ніколі не зведваў"[9, 4].

Будучы паслядоўным прыхільнікам умацавання дзяржавы і яе юрыдычна-прававых інстытутаў, як гуманіст Л.Сапега заўсёды аддаваў прыярытэт ахове правоў і вольнасцяў асобы. Гэтая гуманістычная пазіцыя праявілася ўжо на пачатковым этапе яго ўрадавай дзейнасці, калі ён разам з канцлерам Астафеем Валовічам выступіў ініцыятарам і стваральнікам Галоўнага Трыбуналу (1581 г.) — вышэйшага судоваапеляцыйнага органа ВКЛ, дзейнасць якога была прасякнута ідэямі служэння не толькі інтарэсам дзяржавы, але і інтарэсам абароны правоў асобных людзей. У тым ліку і ад пасяганняў на іх з боку органаў дзяржаўнага кіравання.[10]

У Статуце 1588 г. гэтая гуманістычная тэндэнцыя атрымала сваё далейшае развіццё ў цэлым шэразе прагрэсіўных праўных нормаў, шмат якія з іх насілі надсаслоўны, агульнаграмадзянскі характар.

---

[9] Сапега Леў. Зварот да усіх саслоўяў /Пер. з старабел. А. Разанаў. // Крыніца. - 1995. — № 1-2. С.3.
[10] Да дэмакратыі праз грамадзянскую супольнасць /Пад рэд. П. Фенрыха, У. Роўды. — Шчэцін, 1999. С. 84.

Так, Статут устанаўліваў прэзумпцыю невінаватасці асобы, вызваляў ад крымінальнай адказнасці непаўналетніх (да 16 гадоў) і разумова адсталых. У кодэксе прадугледжвалася таксама больш суровае пакаранне (амаль удвая) за злачынствы супраць жанчын, пацвярджалася права свабоднага выезду за межы дзяржавы (акрамя непрыяцельскіх земляў) з мэтай лячэння, атрымання адукацыі, здзяйснення рыцарскіх учынкаў і нават "набыцця лепшага шчасця".

Працягваючы традыцыі даўняй беларускай талерантнасці і зыходзячы з акта Варшаўскай канфедэрацыі 1573 года "Аб міры паміж іншаверцамі", Статут замацоўваў таксама прынцып верацярпімасці і роўнасці ўсіх хрысціянскіх веравызнанняў.

Асаблівы след ў жыццёвай біяграфіі канцлера пакінуў Берасцейскі царкоўны сабор 1596 г., на якім, дзякуючы дыпламатычным намаганням Л.Сапегі, была заключана унія паміж праваслаўнай царквой і касцёлам. Прыхільнік ідэі рэлігійнай талерантнасці, ён звязваў з уніяй і пашырэннем ўплыву уніяцкай царквы надзеі на ўмацаванне дзяржавы і духоўна-рэлігійную кансалідацыю народа. І не віна, а бяда канцлера, што ягоныя спадзяванні ператварыліся ў руіну, абярнуліся для дзяржавы і жыцця амаль трох пакаленняў вострымі канфліктамі, варожасцю, праліццём братняй крыві.

Драма уніі на доўгія гады стала і ўнутранай душэўнай драмай самога Л.Сапегі. Ды і як было трываць ўсё гэта таму, хто мэту свайго жыцця бачыў у тым, каб "сцерагчы спакой дзяржавы"? Даследчыкі лічаць, што менавіта крывавыя канфлікты паміж праваслаўнымі і уніятамі, як у выпадку з забойствам у Віцебску уніяцкага архібіскупа Іясафата Кунцэвіча, нязгода з жорсткімі метадамі, якімі папскі прастол, кароль і кіруючыя колы Рэчы Паспалітай укаранялі унію, прывялі да адстаўкі Л.Сапегі з пасады канцлера, якую ён па ўласнай волі пакінуў 3 лютага 1623 года, на 66 годзе жыцця.[11]

Цвёрда стоячы на грунце палітычных рэаліяў свайго часу, Л. Сапега ўсё ж часта аказваўся ў палоне сваіх летуценняў аб ідэальнай дзяржаве Платона, гуманістычных ілюзій аб ідэальным чалавеку і грамадстве, станавіўся закладнікам гарачага жадання зрабіць грамадзян шчаслівымі, а іх жыццё сэнсоўным і гарманічным.

Яшчэ ў маладосці дэвізам свайго жыцця ён абраў крылаты лацінскі выраз "FRUSTRA VIVIT QVI NEMINI PRODEST", што ў перакладзе азначае "МАРНА ЖЫВЕ ТОЙ, ХТО НІКОМУ НЕ ДАПАМАГАЕ". Вернасць гэтаму дэвізу Л.Сапега пранёс праз усё сваё жыццё, у якім знайшлося месца і гуманістычнай павазе да селяніна, які, па яго

[11] Падокшын С.А. Беларуская думка ў кантэксце гісторыі і культуры. - Мн.: Бел. навука, 2003. С. 274-275.

словах, корміць і трымае на плячах усю дзяржаву, і хрысціянскай любові да бліжняга. Не кажучы ўжо пра самаахвярнае слугаванне свайму народу і Айчыне.

Выспелены грамадзянскі і дзяржаўны патрыятызм - вось тая духоўная аснова, унутраны рухавік ўсіх яго грамадскіх, палітычных і творчых здзяйсненняў і спраў. Гэтым святым пачуццём ён будзе кіравацца заўжды. І тады, калі, не шкадуючы жыцця і скарбаў, будзе па-рыцарску змагацца за незалежнасць сваёй Айчыны ў бітвах з маскоўцамі і шведамі. І тады, калі для патрэб грамадзянства і абароны дзяржаўнага суверэнітэту ВКЛ ахвярує ўласныя сродкі на выданне Літоўскага Статута 1588 г. І нават тады, калі ўблытаецца ў сумніўныя, авантурныя справы з падрыхтоўкай ілжэдзмітрашаў на маскоўскі пасад і прыме непасрэдны ўдзел у ваеннай інтэрвенцыі на Маскву, марачы аб вяртанні Княству ўсіх былых, страчаных на ўсходзе земляў, — найперш Смаленска. Спадзеючыся, што ўдасца, нарэшце, спыніць братазабойчыя войны на ўсходзе праз заключэнне манархічнай уніі паміж Рэччу Паспалітай і Масковіяй, ачоліўшы яе сынам Жыгімонта III Вазы каралевічам Уладзіславам.[12]

Будзе служыць Айчыне і на схіле сваіх гадоў, калі ўласнай ахвярнасцю і шматгадовымі высілкамі перапісчыкаў і служачых дзяржаўнай Канцылярыі адратуе ад гібелі, спарадкуе і захавае для нашчадкаў дзяржаўны архіў Вялікага княства Літоўскага — славутую Літоўскую Метрыку, цэлых 600 неацэнных тамоў нашай гісторыі.

Леў Сапега памёр 7 ліпеня 1633 года ў Вільні, перадаўшы сваё гаспадарскае месца малодшаму сыну Казіміру. Пахаваны ён у віленскім касцёле св. Міхайлы.

Крэсла Вялікага Канцлера пасля ягонай дабраахвотнай адстаўкі ў 1623г. займалі многія выдатныя асобы і дзеячы ВКЛ. Аднак цяпер, з вышыні гадоў, выразна бачыцца, што яно і сёння застаецца незанятым...



[12] Чаропка В. Уладары Вялікага княства /Вітаўт Чаропка. - 2-е выд., дап. - Мн.: Беларусь, 2002. С. 381-400.

